# СВАБОДА

1 ліпеня 1995 г.

№26

Кошт свабодны


# Указ аб скасаваньні ільготаў можа закрануць кожнага другога жыхара Беларусі

**Паведамленьне Аляксандра Лукашэнкі пра маючае адбыцца скасаваньне “ўсіх ільготаў”, пра што ён абвясьціў 2 чэрвеня на паседжаньні Пракуратуры Рэспублікі, напэўна не пакінула абыякавым ніводнага беларуса. Мы ўжо даўно сталі ўнікальнай краінай — каля 60 працэнтаў насельніцтва Беларусі маюць тыя ці іншыя ільготы.**

Намер прэзідэнта ліквідаваць ільготы адным указам выглядае настолькі радыкальным, што, напрыклад, Дзьмітрый Булахаў, старшыня парламанцкай камісіі па заканадаўстве, у размове са мною назваў такія планы “экспромтам”. Рэч у тым, што акрамя актаў выканаўчай улады, самыя розныя віды ільготаў замацаваныя амаль у трыццаці законах — пра пажарнікаў і міліцыю, дактароў і настаўнікаў, чарнобыльцаў і спартсмэнаў, пэнсіянэраў і дэпутатаў... Каб скасаваць усе матар’яльныя і нематар’яльныя ільготы, трэба парушаць гэтыя законы. Менавіта таму сп.Булахаў, ведаючы, паводле ягоных словаў, характар прэзідэнта, быў схільны “спакойна” ставіцца да рэвалюцыйнай заявы Лукашэнкі.

Падобна, аднак, што адлучэньне Дзьмітрыя Пятровіча ад прэзідэнцкай каманды кепска адбілася на ягонай інфармаванасьці. Кіраўнік Аналітычнага цэнтру адміністрацыі прэзідэнта Пётр Капітула пацьвердзіў нам, што заява Лукашэнкі — не “экспромт”, а “прынцыповыя канцэптуальныя меркаваньні”. На думку сп.Капітулы, права на нейкія ільготы, а хутчэй — дапамогу, павінны мець толькі тыя людзі, якія ня маюць магчымасьці зарабляць сабе на жыцьцё. Зараз амаль гатовы ўказ прэзідэнта, у якім будуць скасаваныя фактычна ўсе тыпы ільготаў, прычым, як сказаў сп.Капітула, “ад прэзідэнта, прэм’ер-міністра, старшыні Вярхоўнага Савету да шэраговага міліцыянта.” Пакінуць іх трэба толькі шматдзетным маці, недзеяздольным і за асаблівыя заслугі перад Радзімай (вэтэранам вайны і прыраўняным да іх асобам). “Трэба разьвітацца з гэтай сістэмай назаўжды, — заявіў Пётр Капітула. — Тым больш цяпер, пакуль эканоміка яшчэ не стабілізавалася”.

Не выклікае сумневу, што, прымаючы падобны ўказ, Лукашэнка парушыць адразу некалькі законаў. Дзьмітрый Булахаў, аднак, спасылаецца на Канстытуцыю, дзе адназначна сказана пра прыярытэт законаў у юрыдычным ранжыры перад указамі прэзідэнта.

Сваімі паводзінамі, якія фактычна завалілі парламанцкія выбары, Лукашэнка загнаў сябе ў заканадаўчую пастку: цяпер кожнае ягонае сур’ёзнае рашэньне, прынятае пры адсутнасьці Вярхоўнага Савету, парушае Канстытуцыю. Канечне, прэзідэнту хацелася б дачакацца новага парламанту і ўнесьці яму свае заканадаўчыя прапановы. Але ня хочуць чакаць рабочыя, якім па два месяцы ня плоцяць грошай, бюджэтнікі, якім дзяржава вінаватая 150 мільярдаў рублёў. Якая тут Канстытуцыя, калі кожны дзень — новы страйк?!

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



# Народу стварылі новых ворагаў — дырэктараў прадпрыемстваў

**У сваіх апошніх прамовах Аляксандар Лукашэнка ўсё настойлівей заяўляе,што нібыта ў беларускай эканоміцы наступіла стабілізацыя. Адзін з дэпутатаў Вярхоўнага Савету з гэтай нагоды трапна пажартаваў: “Так, стабілізацыя ёсьць — прадпрыемствы як не працавалі ў красавіку, так не працуюць і ў чэрвені.”**

Сапраўды, аб’ём рэалізаваных тавараў і паслуг, паводле статыстычных дадзеных, скараціўся за пяць месяцаў бягучага года ў параўнаньні зь леташнім на 28%. Запасы гатовай прадукцыі, што гніе на складах, перавышаюць сотні мільёнаў даляраў — гэтыя замарожаныя капіталы відавочна ня меншыя за суму тых крэдытаў, якія так апантана выпрошвае наш урад у МВФ. Звыш 40 буйных прамысловых прадпрыемстваў (з агульнай колькасьцю працуючых каля 130 тысячаў чалавек) маюць запазычанасьці па выплаце зарплаты за два і больш месяцаў — замест грошай людзям выдаюць рыбу, каўбасу, сьвяцільнікі, штаны і нават шкарпэткі.

Ня дзіва, што ў такой сітуацыі па ўсёй Беларусі стыхійна ўспыхваюць страйкі ды іншыя пратэсты. Улады вымушаныя тушыць іх самым прымітыўным спосабам: то грошай падкінуць, то абяцаньняў, то кантралёраў. Аднак прэзідэнт хутка зразумеў, што ў яго ня хопіць часу і магчымасьцяў наведваць кожны завод і наводзіць там “парадкі”. Лукашэнка, як сапраўдны майстар “пераводу стрэлак”, зрабіў даволі традыцыйны і вельмі зручны для сябе ход: ён імкнецца накіраваць разьюшаную пралетарскую энэргію на дырэктараў прадпрыемстваў. Пасьля часовага зьнікненьня палітычнай апазіцыі менавіта дырэктарскі корпус стаў найлепшай кандыдатурай на вакантнае месца “казлоў адпушчэньня”.

Лукашэнку ў дадзенай сітуацыі нават ня трэба было перабудоўвацца, бо ён заўсёды лічыў, што асноўная прычына крызісу ў прамысловасьці — бязьдзейнасьць яе кіраўнікоў і адсутнасьць вытворчай дысцыпліны. Пры гэтым, канцэнтруючы свой імпэт на асобных, сапраўды абуральных прыкладах бязьдзейнасьці і карумпаванасьці дырэктараў, Лукашэнка адцягвае ўвагу ад галоўнага — неабходнасьці структурнай перабудовы і зьмены формаў уласнасьці.

Эканаміст Лукашэнка не жадае прызнаваць, што на Беларусі адбываецца драматычная стадыя распаду яго любімай сацыялістычнай эканомікі. Відавочна, што 60—80% прадпрыемстваў працуюць стратна, фактычна зьяўляюцца афіцыйна непрызнанымі банкрутамі. Але прэзідэнт не жадае прызнаваць гэта, бо неаднаразова абяцаў не дапусьціць беспрацоўя. Таму і працягваюць заводы выпускаць нікому не патрэбную прадукцыю, расьпіхваючы яе сваім супрацоўнікам замест зарплаты.

Вопыт усіх краінаў, якія выбраліся з крызісу, сьведчыць, што дзяржава заўсёды падтрымлівала лепшых, дапамагаючы “загінуць” непатрэбным і стратным вытворцам. У нас усё наадварот: прыярытэтныя галіны вытворчасьці ня выбраныя, падаткі вышэйшыя чым ва ўсіх суседзяў, прыватны бізнэс існуе пад магутным ціскам уладаў, кантралёраў і прэзідэнцкай прэсы. Быць прадпрымальнікам у нашых умовах — справа ня толькі не пачэсная, але і небясьпечная. Прэзідэнт “дзеля прафілактыкі” ўвесь час пагражае нацыяналізацыяй банкаў і драконаўскім указам пра перарэгістрацыю прадпрыемстваў. Маральна-псіхалагічна людзі ўсяляк заахвочваюцца заставацца на неэфэктыўных дзяржаўных прадпрыемствах. Хоць 5 дзён у месяц — але праца, хоць 300 тысяч — але заробак.

Для таго, каб пайсьці на радыкальныя і “непапулярныя” крокі па закрыцьці нерэнтабельных прадпрыемстваў, трэба мець палітычную мужнасьць і рашучасьць. Аднак, падобна, для Лукашэнкі праблемы свайго рэйтынгу сярод насельніцтва нашмат важнейшыя за неабходнасьць праводзіць сур’ёзныя рэформы.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



СІМ

* * *

*Мясьніковіч — Чыгіру:*

*“Миша, давай пойдем своим путём”*


**Год заснаваньня 1902**
**Выходзіць з 1990**

**Галоўны рэдактар Ігар Германчук**

**Заснавальнік Павал Жук**

**Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd.“**

**Наклад 93 000**

**Адрас рэдакцыі:**
**220088, Менск, вул. Іванаўская, 56**

**Тэл./факс 36-24-41**


## Візіты

**З 29 чэрвеня па 2 ліпеня** ў Менску знаходзіцца намесьнік Генэральнага сакратара ААН сп.П.Хансэн. Ён абмяркуе праблемы, зьвязаныя з чарнобыльскай катастрофай, наведае Гомельскую вобласьць.

**11 ліпеня** чакаецца афіцыйны візіт прэм’ер-міністра Ісламскай Рэспублікі Іран доктара Хабібі. Мяркуецца падпісаць шэраг беларуска-іранскіх эканамічных пагадненьняў.

**13—14 ліпеня** сталіцу Беларусі наведае прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Будзе падпісана даўно падрыхтаваная Дамова аб дружбе і супрацоўніцтве, а таксама яшчэ 5—6 дакумэнтаў, сярод якіх пагадненьне аб сацыяльнай абароне.

**З 22 па 26 ліпеня** запланаваны візіт у Беларусь Маскоўскага патрыярха Алексія II.

Падчас знаходжаньня ў Менску ён будзе мець размову з прэзідэнтам А.Лукашэнкам і прэм’ер-міністрам М.Чыгіром. Маскоўскі патрыярх наведае таксама Горадню і Берасьце, дзе сустрэнецца з кіраўнікамі абласных і гарадзкіх адміністрацыяў. Алексія II будзе суправаджаць мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. У ходзе візіту пройдуць урачыстыя набажэнствы.

**А.Д.**

# У чаканьні крэдыту ад МВФ

**З крыніцаў, блізкіх да прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду, стала вядома, што выдзяленьня Беларусі крэдыту "stand by", прызначанага на пачатак жніўня, хутчэй за ўсё, не будзе.**

Сярод першачарговых патрабаваньняў МВФ да ўраду Беларусі пазначана павышэньне да 1 ліпеня тарыфаў на камунальныя паслугі (пры гэтым насельніцтва павінна праплочваць 60% сабекошту гэтых паслугаў), а таксама адмена Кабінэтам Міністраў Беларусі сьпісу прадпрыемстваў-манапалістаў. Крыніца паведаміла, што цяпер імідж Беларусі ў вачох міжнародных фінансавых арганізацыяў вельмі нізкі. Выправіць становішча можа толькі радыкальны крок беларускага кіраўніцтва.

На перамовах прэм'ер-міністра М.Чыгіра і місіі Міжнароднага валютнага фонду Кабінет Міністраў заверыў МВФ, што да 1 ліпеня выканае ўсе абавязкі. Аднак, са словаў крыніцы, Аляксандар Лукашэнка, які ня браў удзелу ў перамовах і не сустракаўся з місіяй, з абяцаньнямі прэм'ер-міністра вырашыў не пагаджацца. 22 чэрвеня на сустрэчы з журналістамі прэзідэнт Беларусі заявіў: "Праплаты насельніцтвам 60% сабекошту жыльлёва-камунальных паслугаў ня будзе. У крайнім выпадку — 50%, і тое напрыканцы года."

Са сьпісам прадпрыемстваў-манапалістаў таксама ўзьніклі складанасьці. У прыватнасьці, беларускі Кабінэт Міністраў не жадае пазбаўляць статуса манапаліста аб'яднаньне "Беларуськалій".

*СІМ*

**Кіраўнік Аналітычнага цэнтру Адміністрацыі прэзідэнта П.Капітула ў сваім камэнтары для газэты СВАБОДА фактычна абверг гэтае паведамленьне агенцтва *СІМ*.**

Інфармацыю пра нязгоду А.Лукашэнкі з М.Чыгіром ён назваў "выдумкай несумленных журналістаў". Па словах сп.Капітулы, усе дамоўленасьці з МВФ беларускім бокам будуць выкананыя ў тэрмін. Пасьля павышэньня тарыфаў за камунальныя паслугі да 60% ад сабекошту, па тэлебачаньні павінен выступіць прэзідэнт альбо прэм'ер-міністр з тлумачэньнямі. Кампэнсацыя будзе праходзіць па вядомай схеме: у каго аплата камунальных паслугаў перавысіць 15% даходаў, будуць мець права зьвярнуцца па дапамогу.

Па словах сп.Капітулы, будзе выкананая і заканадаўчая частка пагадненьняў з МВФ. Бюджэт, як гэта не кур'ёзна, відаць, будзе прыняты прэзідэнцкім указам. Іншыя законы будуць прапанаваныя на першую ж сэсію парламента. "Я не бачу ніякіх сур'ёзных перашкодаў, каб Беларусі не далі крэдыт "stand by". Мы разьлічваем на яго", — заявіў кіраўнік Аналітычнага цэнтру.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Прэзідэнцкі кантралёр падазраецца ў махінацыях

**Пад увагай Камітэта па барацьбе з карупцыяй апынуўся начальнік галоўнай управы Службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта па Гомельскай вобласьці Леанід Сечка.**

Прэзідэнцкага кантралёра падазраюць у махінацыях пры атрыманьні надзелу пад будаўніцтва катэджа. Апроч таго, у распараджэньні Камітэта па барацьбе з карупцыяй ёсьць яшчэ некалькі дакумэнтаў, якія сьведчаць аб не зусім прыстойных учынках сп.Сечкі. Чакаецца, што ў бліжэйшы час дасье на Леаніда Сечку апынецца на стале ў прэзідэнта, які і прыме канчатковае рашэньне пра ягоную далейшую кар'еру. Ня выключана, што сп.Сечка дабраахвотна пакіне пасаду начальніка галоўнай управы Службы кантролю і ўзначаліць у новым парламанце фракцыю Партыі народнай згоды.

*СІМ*

# Навошта 39 дэпутатаў змагаюцца зь міфам аб нелегітымнасьці парламанту

**Хіба не зьяўляецца сёньняшні парламант палітычным трупам? Зразумела, што гэта дрэнна гучыць, такія параўнаньні крыўдныя для сумленных дэпутатаў, якія сапраўды ўпарта працавалі на заканадаўчай ніве. А вось тых, каго яны непасрэдна тычацца, хто толькі наяжджаў у Менск, каб націскаць кнопкі, кіруючыся не сумленьнем і ведамі, а групавымі інтарэсамі, такі выраз нават не кране... І ўсё ж, Вярхоўны Савет 12-га скліканьня сапраўды ў палітычным сэнсе знаходзіцца ў стане перадсьмяротным. Сёньняшнія ягоныя дзеяньні нагадваюць канвульсіі хворага, якому адключылі кісларод. Усе ягоныя органы паралізаваныя, ягоныя вусны яшчэ нешта шэпчуць, але ўсё цішэй.**

Заяву, якую напачатку тыдня падпісалі 39 дэпутатаў на чале з Уладзімерам Сапронавым і Пятром Садоўскім, можна параўнаць з перадсьмяротным шэптам. Хаця ў ёй шмат слушных думак і прынцыповых палажэньняў, пачуюць гэты "крык" хіба што супрацоўнікі Вярхоўнага Савету, некаторыя службовыя асобы ды абмежаваная колькасьць чытачоў парламанцкай прэсы — на паседжаньні ў Авальнай зале Старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб меў рацыю, калі паскардзіўся, што прэса даўно ўжо абыходзіць увагаю парламант, і ён не чакае добрых зьменаў у гэтым накірунку.

Ці варта агучваць патрабаваньні "39-ці беларускіх камісараў", калі вышэйшай уладзе яна ўсё роўна што піск камара? Што з таго, калі яны лічаць парламант легітымным, а ім ня плоцяць грошай (толькі нядаўна разьлічыліся, але прэзідэнт, што зь 1-га верасьня ўтрыманьня ня будзе) і праз дзяржаўныя СМІ даводзяць грамадзкасьці, што дэпутаты трымаюцца за свае прывілеі? Каго кранае, што яны бачаць свой канстытуцыйны абавязак у тым, каб працаваць да выбраньня новага парламанту, а ім адключаюць тэлефоны, робяць іншыя перашкоды? Ну і што, калі яны пагражаюць зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд? "Пасьля палітыка-выхаваўчай работы Канстытуцыйны суд паводзіць сябе вельмі лаяльна", — гэтыя словы дэпутата Віктара Піскарова, былога міністра ўнутраных справаў, сьведчаць аб тым, якое значэньне надаюць дэпутаты судовай уладзе ў нашай краіне.

І ўсё ж 39 дэпутатаў стаяць на сваім: парламант легітымны; трэба забясьпечыць яго парламанцкую працу, а таксама ўмовы для правядзеньня новых свабодных выбараў; заявы аб нелегітымнасьці ВС падрываюць дзяржаўны лад; усе, хто яму працідзейнічае, павінны несьці судовую адказнасьць. І напрыканцы: "чарговая сэсія павінна быць прызначаная, падрыхтаваная і праведзеная ў прызначаны заканадаўствам тэрмін".

Вось што асабіста мне здаецца галоўным у прынятай заяве і чаму падаецца важным увогуле зьвярнуць на яе ўвагу. Бо тут ужо гаворка не аб дэпутацкіх зарплатах і адпускных, але аб тым, што ўвосень заканадаўцы запатрабуюць ад выканаўчай улады даць падрабязную справаздачу па выкананьні бюджэту, па выкарыстаньні сродкаў пазабюджэтных датацыйна-кампенсацыйных і ня толькі. "Асабіста ў мяне вялікія пытаньні па мэханізме фінансаваньня адміністрацыі прэзідэнта", — гэтыя выраз з прамовы на дэпутацкім сходзе Уладзімера Сапронава выклікаў вялікі рэзананс сярод дэпутатаў і журналістаў. Цікава, што растлумачыць, тым больш абгрунтаваць свае падазрэньні дэпутат адмовіўся, спаслаўшыся на пэўныя цяжкасьці з набыцьцём інфармацыі.

Ад сябе дадам, што такія ж падазрэньні ёсьць і ў журналістаў. Яны грунтуюцца на зьвестках пра тэнісныя корты, збудаваныя для прэзідэнта каля ягонай загараднай рэзідэнцыі, на чутках пра нейкую асабіста для яго падрыхтаваную ўзлётную паласу, на разважаньнях вакол шалёных грошай, што пацяклі ракой ад "арэндатараў" пасьля перадачы дзясяткаў дзяржаўных будынкаў "пад руку" Івана Ціцянкова. Хто і як цяпер выкарыстоўвае гэтыя грошы? Колькі іх? На чыіх рахунках яны могуць апынуцца? У які банк яны будуць пераводзіцца для "перакруткі"?

Вядома, гэтыя пытаньні ўвосень могуць вельмі зацікавіць дэпутатаў, якіх будзе ўжо не 39, а пару соцень. Да тых, каму сумленьне не дазваляе спакойна глядзець, як раскрадаецца дзяржава, абавязкова далучацца і каньюнктуршчыкі, якія павысяць сваю актыўнасьць менавіта напярэдадні выбараў. У любым выпадку парламант атрымае глыток кіслароду, на некаторы час узрасьце ягоная палітычная вага, што дазволіць з больш замацаваных пазіцый уплываць на ўмовы новых выбараў. Калі атрымаецца.

Вядома, іншаму боку гэта непатрэбна. Таму на сёньняшні дзень вынікам заявы хутчэй за ўсё будзе наступ на яе ініцыятараў і падпісантаў, якіх чакаюць "дробныя" непрыемнасьці. Накшталт таго, што зьявяцца новыя цяжкасьці з працаўладкаваньнем або нешта іншае, з чым ужо сустракаліся дэпутаты, якія пакуль працуюць у Вярхоўным Савеце. Напэўна, галоўная мэта такіх дзеяньняў будзе наступная — пазбавіць жаданьня корпацца ў "бруднай бялізьне" адміністрацыі. А не дапусьціць да яе іншых асобаў, якія ня маюць дэпутацкіх мандатаў, будзе ўвогуле проста.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

*Адкрыты ліст*

# Настаўнікі пішуць прэм'еру

Паважаны спадар Чыгір!

Напісаць гэты ліст нас вымусіла масавае абурэньне настаўнікаў Вашым распараджэньнем №387Р. Тыя грошы, якія мы атрымалі ў сакавіку, далі нам магчымасьць на момант спакойна ўздыхнуць. Аказваецца, што "облагодетельствовали" нас памылкова. Аказваецца, што лёгка ў нас адабраць нават тое, што належала па законе. Дастаткова выдаць указ аб адмене прэміі з красавіка, а потым у траўні загад аб зьняцьці прэміі, якая была выдадзеная за сакавік. Прычым мы так і не разумеем, у чым нашая віна. Чамусьці стала законам: калі настаўнікам крыху паднімаюць зарплату, праз тэлебачаньне, радыё і друк пра гэта ведае ўся Рэспубліка. Гучныя размовы пра павышэньне аплаты працы настаўнікаў грамадзтва уводзяць у зман. Некаторыя наіўныя людзі вераць, што настаўнікі сапраўды зарабляюць шмат. Разьбяромся, ці так гэта.

Згадаем павышэньне зарплаты настаўнікам у лютым. Прэзідэнт асабіста аб'явіў, што зарплата настаўніка павышаецца ў два разы. Літаральна ўсьлед за гэтым у два разы быў павышаны мінімальны заробак і аўтаматычна зарплата усіх катэгорый працоўных таксама павялічылася ў два разы. Так што мы засталіся на тым жа жабрацкім узроўні. Возьмем апошняе павышэньне настаўніцкай зарплаты, пра якое таксама было шырока абвешчана, і разьбярэмся, што ж рэальна атрымаў настаўнік.

Стаўка настаўніка I-й катэгорыі, які мае вышэйшую адукацыю, — 422 тыс., II-й — 398 тыс., без катэгорыі — 375 тыс. Гэта можна параўнаць з даперабудовачнымі 40 рублямі.

Хаця, калі гаворыць пра даходы настаўніка, ужываюць словазлучэньне: сярэдняя заработная плата. Гэта вельмі зручнае паняцьце, бо яно хавае сапраўдны стан рэчаў: для таго каб выжыць, многія настаўнікі вымушаныя працаваць зьверх стаўкі.

У адным з выступаў Прэзідэнта па тэлевізіі прагучала такая фраза: "Добрыя настаўнікі працуюць на паўтары стаўкі". Пры ўсёй павазе да Прэзідэнта з такім выказваньнем мы пагадзіцца ня можам. Мы вымушаныя працаваць на гэтыя паўтары стаўкі, каб выжыць.

Паводле разьлікаў сацыёлагаў, праца настаўніка па напружанасьці займае сярэдняе месца паміж працай шахцёра і кіроўцы аўтобуса. Таму добры настаўнік, які працуе з поўнай аддачай, паўтары стаўкі проста ня вытрымае. Нельга рабіць нормай працу на мяжы фізічных і псіхічных сілаў!

Нельга прамаўчаць пра тэхнічных работнікаў школы, якія ў параўнаньні зь іншымі прадстаўнікі іх прафэсіі, загружаныя нашмат больш, але атрымліваюць усяго 100 тыс., зь якіх трэба вярнуць дзяржаве выплачаную законна прэмію. Ці магчыма на гэтыя грошы пракарміць сям'ю?

Сёньня мы ня можам падпісацца на газэты і часопісы, купіць мэтадычную літаратуру, бо думаем пра хлеб надзённы. Ды і наогул, як можа галодны, прыніжаны напаўжабрацкім існаваньнем настаўнік працаваць творча?

Ці можа раб выхаваць свабодную асобу?

Ва ўсім цывілізаваным сьвеце да апачынку даюць грашовую дапамогу. У нас жа забіраюць справядліва заробленае. Дарэчы, нават і гэтыя кроплі мы ня можам атрымаць у час, бо выдачу грошай затрымліваюць.

Мы лічым ганебнымі, негуманнымі і беззаконнымі дзеяньні Кабінэта Міністраў Рэспублікі Беларусь у выданьні ўказа аб ліквідацыі прэміі і вылічэньні адпускной прэміі за сакавік. Мы выказваем нязгоду з Вашым загадам і патрабуем адмяніць яго.

**Настаўнікі школы №7 г.Рэчыцы Гомельскай вобласьці А.Тарасенка, А.Гутнікаў, Л.В.Салдаценка, С.А.Ляскавец, Весялова, Лукінская С.В., Грышман, Казіцкая Н.Е., Буслаў В.Н., Кулага С.Г.** *(усяго 84 подпісы)*, **а таксама настаўнікі школы №5 Арлоўская Г.П., Ціхановіч Е.Е., Таўкачова А.Н., Сьвятагор Н.Г.** *(усяго 24 подпісы)*

# Нацыянальны архіў перасяляюць

**Нацыянальны архіў Беларусі, які знаходзіцца ў адным будынку з адміністрацыяй прэзідэнта, будзе зьліквідаваны. Каля мільёну справаў (а сярод іх дакументы КПБ, ЛКСМБ, Другой сусьветнай вайны) пяройдуць да дзяржаўнага і абласнога архіваў.**

Спэцыялісты лічаць, што такая рэарганізацыя зьнішчыць унікальны комплекс дакумэнтаў, які склаўся гістарычна, на працяглы час выведзе іх з практычнага выкарыстаньня і навуковага ўжытку, а перамяшчэньне пагоршыць фізічны стан дакумэнтаў і акажацца згубным. Прапанова супрацоўнікаў Нацыянальнага архіву пераўтварыць яго ў прэзідэнцкі (па аналогіі з архівам прэзідэнта Расеі, які створаны на базе крамлёўскага) была адхіленая.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Рабочыя выставілі ўльтыматум

**Перастаў працаваць Віцебскі завод затачных станкоў**

На мітынгу пратэсту рабочыя абураліся, што іх выпраўляюць у вымушаны адпачынак. Ва ўльтыматыўнай форме яны патрабавалі выплаты заробку за красавік і травень.

"Мы вымушаныя, — заявіў адзін з рабочых, — ісьці ў банды, або на тых, хто давёў нас да галоднага існаваньня". Адміністрацыя ня ведае, дзе ўзяць грошы на зарплату. Банкі больш ня хочуць даваць заводу крэдыты нават пад вялікія працэнты, бо ён не вярнуў ранейшыя пазыкі.

**Тамара СЁМУХА**

## Ні працы, ні грошай

**На два месяцы адпраўленыя ў вымушаны адпачынак работнікі Баранавіцкай трыкатажнай фабрыкі. Практычна спыненая вытворчасьць на заводзе штучных скураў у Пінску.**

Такое становішча выклікана немагчымасьцю прадаць прадукцыю. Напрыклад, на заводзе ў Пінску запасы нерэалізаваных скураў ацэньваюцца ў 14 млрд. рублёў. З-за адсутнасьці сродкаў некаторыя прадпрыемствы выдаюць зарплату гатовай прадукцыяй.

**Лявон МУХАВЕЦКІ**

## Старшыням далі тэрмін

**Асіповіцкая раённая адміністрацыя вырашыла не заключаць кантракты зь пяцьцю кіраўнікамі мясцовых калгасаў і саўгасаў.**

Кожнаму зь іх дадзены выпрабавальны тэрмін (да канца года), каб палепшыць вытворчыя паказьнікі ў сваіх гаспадарках.

**Валянцін НАВІЦКІ**

# БНФ ужо не спадзяецца на вёску

**У Горадні адбылася рэгіянальная канфэрэнцыя суполак БНФ заходніх абласьцей Беларусі.**

Самі па сабе напрошваліся гістарычныя аналогіі. З КПЗБ-оўскімі канфэрэнцыямі параўноўваць цяперашнюю нельга. Па-першае, сцэна была завешана бел-чырвона-белымі сьцягамі, якіх не цярпелі і ня церпяць камуністы, а па-другое, БНФ пакуль што праводзіць свае канфэрэнцыі, дзякуй Богу, легальна.

Больш лагічна параўнаць фронтаўскую арганізацыю з колішняй Беларускай сялянска-работніцкай Грамадой. Аднак грамадаўцы абапіраліся на вёску і амаль у кожнай была створаная суполка БСРГ. Тым часам уплывы БНФ у вясковай мясцовасьці і Гарадзеншчыны, і Берасьцейшчыны аказаліся слабымі. Гэта ў часе прэзідэнцкіх выбараў здавалася, што вяскоўцы гатовыя галасаваць за Фронт. Аднак парламанцкія выбары паказалі, што "вэртыкальшчыкі" і старшыні калгасаў цалкам валодаюць і кіруюць сітуацыяй на вёсцы. Нездарма Зянон Пазьняк мусіў пэсімістычна прызнаць на канфэрэнцыі, што фронтаўцы на вёсцы прайгралі б у любым разе.

У такім выпадку колішняя заходне-беларуская Грамада, якой кіравалі камуністы, больш па сваёй структуры нагадвае сёньняшнюю Аграрную партыю, што мае свае "пярвічкі" амаль у кожным калгасе Гарадзеншчыны. Адсюль і посьпех на апошніх выбарах: 11 дэпутатаў у Вярхоўным і 13 у абласных Саветах. Бо ў аграрнікаў ёсьць грошы, транспарт і паўсюль свае людзі. Усё гэта патрэбна і БНФ. Да такой высновы прыйшоў і старшыня гарадзенскай абласной Рады Мікола Баўсюк, які рыхтуюць балатавацца ў Вярхоўны Савет ажно ў Астравецкім раёне, куды яму ўвесь час даводзілася езьдзіць аўтобусам ды яшчэ за ўласны кошт.

Увогуле раённыя Рады Фронту былі створаныя ў Гарадзенскай вобласьці толькі сёлета. Напачатку зьявілася аптымістычнае спадзяваньне арганізаваць свае суполкі літаральна ў кожным сельсавеце, аднак ажыцьцявіць гэта не ўдалося. Што да Берасьцейшчыны, дык там структуры БНФ яшчэ слабейшыя. Як прызнаўся намесьнік старшыні абласной Рады Анатоль Крыварот, у васьмі раёнах вобласьці мясцовыя структуры БНФ аформіліся альбо у часе парламанцкіх выбараў, альбо напярэдадні іх. Спадзявацца на посьпех у такім разе не было сэнсу.

Тым ня менш Зянон Пазьняк настройваў удзельнікаў канфэрэнцыі на аптымістычны лад. Ён сказаў, што моцны ня той, хто б'е, а той, хто ўмее трымаць удар і можа пасьля яго падняцца. Трэба вучыцца дзейнічаць у той канкрэтнай сітуацыі, якая існуе на Беларусі і пакінуць мары пра ідэальны народ і ідэальныя ўмовы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Дажыліся...

**Састарэлыя людзі сёньня гадзінамі стаяць у чэргах, каб атрымаць свае жабрацкія пэнсіі. Аднак у дзяржавы няма грошай для гэтых нямоглых старых.**




У чэрвені выплату пэнсіяў затрымалі на 10—12 дзён. Прагназуюць, што ў ліпені гэты тэрмін можа павялічыцца. Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ намесьнік міністра сацыяльнай абароны Генадзь Бяспалаў, на выплаты пэнсіяў штомесяц патрабуецца звыш аднаго трыльёна рублёў. А ўзяць іх своечасова няма дзе: дзяржава ня мае грошай, а прадпрыемствы з прычыны няплатаздольнасьці і банкрутства ня плоцяць страхавыя ўзносы.

Як сьведчыць статыстыка, на пачатак 1995 г. у Беларусі было амаль 2,5 млн. пэнсіянэраў. Кожны месяц іх колькасьць расьце. Дзе ж браць грошы для выплаты пэнсіяў? Апошнім часам міністэрства сацыяльнай абароны настойліва прапануе Кабінэту Міністраў увесьці новыя санкцыі. У прыватнасьці, прымусіць прадпрыемствы плаціць страхавыя ўзносы ў першую чаргу. Але пра якія-небудзь рэформы ў сацыяльнай палітыцы ў кабінэтах міністэрства і блізка не чуваць. Як сказаў адзін з чыноўнікаў міністэрства: "Нам хаця б зь сёньняшнімі праблемамі справіцца". А старшыня пэнсійнага фонду Людміла Бачыла ўвогуле адмовілася сустрэцца з карэспандэнтам СВАБОДЫ, спаслаўшыся на занятасьць. Як мы высьветлілі, гэтая дама зараз сапраўды вельмі занятая — яна задумала грунтоўны рамонт сваіх міністэрскіх апартамэнтаў...

Тым часам у краіне сфармавалася пэўная частка людзей, для якіх адзінай крыніцай сямейнага бюджэту зьяўляецца пэнсія бацькоў. На 300—500 тыс. рублёў пэнсіі кормяцца ўсе — ад старога да малога, бо працаздольныя члены сям'і на сваіх прадпрыемствах па 2—3 месяцы не атрымліваюць зарплату.

**Камэнтар доктара сацыялагічных навук, загадчыка аддзела Інстытута сацыялогіі АН Беларусі Сяргея Шавеля:**

— Сацыялагічныя апытаньні, якія мы правялі летась, сьведчаць, што асноўная частка насельніцтва наблізілася да катастрафічнай рысы беднасьці. Жыцьцёвы ўзровень людзей за апошнія чатыры гады зьменшыўся амаль у два разы. Урад перыядычна спрабуе падтрымаць пэнсіянэраў з дапамогай грашовых ін'екцыяў і выдае пастановы "аб чарговых мерах сацыяльнай абароны". Аднак гэтыя часовыя намаганьні амаль нічога не даюць.

Пэнсійная сістэма павінна быць такой, каб чалавек не апынуўся на старасьці год у крызісным матар'яльным становішчы. У Беларусі пэнсійнае забесьпячэньне не адпавядае гэтаму патрабаваньню, бо цяпер сярэдняя пэнсія ніжэйшая за пражытачны мінімум. Гэта зьвязана ня толькі са складанай эканамічнай сітуацыяй, але і з пэўнымі пралікамі ў арганізацыі пэнсійнай справы. У прыватнасьці, адсутнічае ўлік узносаў у пэнсійны фонд і асабістыя рахункі пэнсіянэраў. Пэнсійныя складкі не абараняюцца ад інфляцыі і ня могуць перадавацца па спадчыне. Такім чынам, у сацыяльным забесьпячэньні адсутнічае той мэханізм, які дзейнічае ва ўсім цывілізаваным сьвеце.

У заходніх краінах рабочы сярэдняй кваліфікацыі выходзіць на пэнсію і мае 350—400 тысячаў даляраў на асабістым рахунку. Для павышэньня эфэктыўнасьці сацыяльнага страхаваньня і пэнсійных узносаў неабходна замацаваць у законе "Аб пэнсійным забесьпячэньні" дакладнае размежаваньне паміж працоўнымі пэнсіямі і сацыяльнымі дапамогамі. Працоўная пэнсія павінна быць індывідуальная для кожнага чалавека і адпаведная ягонаму ўзносу. Для сацыяльнай абароны пэнсіянэраў неабходна шырэй выкарыстоўваць рынкавыя мэханізмы. Прынамсі, трэба практыкаваць іпатэку прыватызаванага жыльля, лецішчаў і іншай маёмасьці. У нашай краіне шмат адзінокіх састарэлых. Яны маглі б здаваць сваю маёмасьць пад заклад у іпатэчныя банкі. Напрыклад, цяпер 2-пакаёвая кватэра ў Менску на рынку нерухомасьці каштуе ў сярэднім 20 тыс. даляраў. На гэтыя грошы пэнсіянэр мог бы бязьбедна пражыць сваю старасьць. Аднак дзяржава ці ня хоча, ці сапраўды ня ведае, як дапамагчы пэнсіянэрам.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Трэці зьезд пастанавіў...

**У калгасе "Трэці зьезд Саветаў" Кіраўскага раёну ў спэцыялістаў з вышэйшай адукацыяй заробак павялічыцца на 20% ды плюс адзін працэнт за кожны год працы.**

Гэта стала вынікам новай сістэмы аплаты працы, уведзенай кіраўніцтвам калгасу. Меншыя падвышэньні чакаюць уладальнікаў дыпломаў тэхнікуму, яшчэ менш атрымаюць тыя, хто спыніў адукацыю пасьля сярэдняй школы. Неадукаваныя калгасьнікі будуць працаваць без надбавак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Новая форма для "Зуброўкі"

**Берасьцейскі гарэлачны завод разам са Зьнешэканомбанкам, фірмай "Лада ОМС" і Лідзкім заводам "Оптык" стварылі сумеснае прадпрыемства па выпуску шкляного посуду сучасных эўрапейскіх стандартаў.**

Пляшкі будуць выкарыстоўвацца для разьліву гарэлкі. Абсталяваньне для выпуску шклатары ўжо закуплена і хутка будзе усталяванае на заводзе ў Лідзе.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Начальства сябе не пакрыўдзіць

**Кіраўніцтва Віцебскага завода "Мегом" вырашыла паправіць фінансавае становішча прадпрыемства шляхам распродажу тэлевізараў, халадзільнікаў ды іншай бытавой тэхнікі, якая была куплена ў "багатыя" часы для кабінэтаў адміністрацыі.**

Аднак рабочыя лічаць, што начальства задумала гэта выключна ў сваіх інтарэсах — каб за бясцэнак прыдбаць сабе тавары. У камісію па ацэнцы маёмасьці, прызначанай да продажу, уключылі не бухгалтараў ды эканамістаў, а "чамусьці" галоўнага інжынэра, галоўнага энэргетыка і галоўнага мэтролага — тых, хто бліжэй да дырэктара. І хоць работнікі прафкаму настойвалі, каб каштоўныя рэчы былі ў першую чаргу прапанаваныя рабочым — вэтэранам, бацькам вялікіх сям'яў, іншым, хто шмат працуе ды мала атрымлівае,— кіраўнікі вырашылі, як заўсёды, размеркаваць "здабычу" паміж сабою.

Прафкамаўцы, нядаўна абраныя дэмакратычным шляхам замест былога складу камітэту, які дыскрэдытаваў сябе, выступілі супраць гэткай "прыватызацыі". Чым скончыцца гэтая "вайна", пакуль невядома...

**Барыс ХОЛАД**

## Мытнікаў зацікавіла навука

**Восем навукоўцаў зь Берасьцейскага пэдінстытуту, якія накіроўваліся на Міжнародную навуковую канфэрэнцыю ў польскі горад Седліца, на мяжы трапілі пад пільны дагляд беларускіх мытнікаў.**

Але мытнікі шукалі зусім не кантрабанду. Спадарыня Лаўроўская (удзельніца канфэрэнцыі) сказала карэспандэнту СВАБОДЫ: "Да нас падышоў мытнік і спытаў: хто тут камандзіровачныя? Потым зьявілася яшчэ чатыры мытнікі. Яны без тлумачэньняў папрасілі навукоўцаў паказаць усе паперы і прагледзелі кожны даклад. Што яны там шукалі — ніхто так і не зразумеў". Асабліва ўважліва мытнікі вывучалі даклад аб пэрспэктывах разьвіцця Берасьця і нават зьнялі зь яго ксэракопію.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Зьнішчаюць чарнобыльскія вёскі

**Спэцпрадпрыемства "Радон", якое вядзе работы, зьвязаныя з лакалізацыяй наступстваў чарнобыльскай катастрофы на забруджаных тэрыторыях, прыступіла да працы ў вёсцы Нова-Ельня Магілёўскай вобласьці.**

Спэцпрадпрыемства, папярэдне адсяліўшы жыхароў, зьліквідавала ўжо дзесяць вёсак. У бліжэйшы час падобны лёс чакае яшчэ столькі ж населеных пунктаў.

**СІМ**

# “Страх ня можа быць вечным”

Так лічыць лідар Свабоднага прафсаюзу Генадзь Быкаў

**На сёньняшні дзень Свабодны прафсаюз Беларусі налічвае ўжо 11 тысячаў чалавек і мае 90 пярвічных арганізацыяў.**

Пра гэта паведаміў старшыня СПБ Генадзь Быкаў на прэс-канфэрэнцыі, якая адбылася ў сераду 28 чэрвеня. Спаслаўшыся на сацыялагічныя апытаньні, ён сказаў, што цяпер каля 70% рабочых гатовыя пакінуць афіцыйны прафсаюз і ўступіць у свабодны, аднак яны баяцца, што іх звольняць за гэта з працы. “Але страх ня можа быць вечным”, — сказаў Г.Быкаў.

Ён падкрэсьліў, што апошнім часам узмацняецца ціск на арганізацыі Свабоднага прафсаюзу. Напрыклад, адміністрацыя Берасьцейскага заводу “Цветатрон” адмаўляецца пералічваць узносы на прафсаюзны рахунак. А дырэкцыя Менскага маторнага заводу імкнецца прыцягнуць да судовай адказнасьці заводзкіх прафсаюзных актывістаў за арганізацыю страйка.

Але, як запэўніў Г.Быкаў, свабодныя прафсаюзы па-ранейшаму будуць актыўна змагацца за правы рабочых, нягледзячы на ўціск і перасьлед з боку ўладаў.

Прафсаюзны лідар тралейбуснага дэпо г.Менска паведаміў, што іх арганізацыя вырашыла падаваць у суд на адміністрацыю, якая адмаўляецца выконваць калектыўную дамову. Старшыня прафсаюзу мэтрапалітэна В.Макарчук заявіў, што на агульнай працоўнай канфэрэнцыі рабочыя падтрымалі прапанову правесьці 6 ліпеня страйк. “Калі адміністрацыя мэтрапалітэна не пагадзіцца з нашымі ўмовамі, — сказаў ён, — цягнікі мэтро спыняцца на нявызначаны тэрмін”.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Дэманстрацыя пратэсту ў Лондане

**Беларусы, якія жывуць у Лондане, правялі 27 чэрвеня акцыю пратэсту ля будынку беларускай амбасады.**

Дэманстрацыя адбывалася ў той самы момант, калі беларускі пасол Уладзімер Шчасны ўручаў даверчыя лісты Брытанскай Каралеве. Дэманстранты трымалі напісаныя па-ангельску плакаты з крытыкай рэжыма Лукашэнкі. Прахожыя спыняліся, пыталіся, што за акцыя, шмат хто зь іх упершыню чуў слова Беларусь.

Пасол Шчасны адмовіўся даваць якія-небудзь камэнтары.

Зь незвычайных уражаньняў: паводле добрых ангельскіх традыцыяў службы гатэлю, у рэстаране якога адбываўся прыём, выносілі пачастунак не толькі каралеўскім фурманам, але і каралеўскім коням: першым — белае віно з канапкамі, а апошнім — па добрай морквe. Во гэта дэмакратыя, дык дэмакратыя!

**Эля ЗЯНЬКОВА, Лондан**

Пасьля рэфэрэндуму адзін мой стары спрэчнік заўважыў: “Ну што, нацыяналісты, цяпер вы мусіце лічыцца з думкай нацыі. Супраць гісторыі не папрэш!” Але з думкай нацыі мусяць лічыцца ня толькі нацыяналісты, але і ўсе астатнія, асабліва кіраўніцтва краіны, якое да плебісцыту схільнае было меркаваць, што ані думкі нацыі, ані самой нацыі як такой у нас няма.

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# Фэномэн

## Хто перамог?

З вынікаў рэфэрэндуму кожны зрабіў сваю выснову. Афіцыйныя газэты друкавалі паведамленьні пра “пераканаўчую перамогу прэзідэнта”, праўда, не казалі пры гэтым — каго ён перамог і навошта. Апазіцыя, у глыбіні душы прыняўшы паразу на свой кошт, заявіла пра сваю маральную перамогу і незаконнасьць плебісцыту, але зрабіла гэта без асаблівага энтузіязму, нібы адчуваючы, што ў іншых умовах вынікі былі б мала адрозныя ад гэтых. Пачуліся галасы пра несьвядомасьць “тугадумнага” народу, разгубленасьць дэмакратычных сілаў, закат чарговага нацыянальнага адраджэньня...

Такая розьніца ў ацэнках і высновах тлумачыцца, на маю думку, тым, што рэфэрэндум, задуманы як фактар у барацьбе палітычных сілаў, даў вынік у зусім іншай плоскасьці. Яго суб'ектам выступіў не прэзідэнт і не апазіцыя, а народ. Можа быць, упершыню за ўсю сваю гісторыю наша нацыя, якая дагэтуль разглядалася і ацэньвалася апрыёрна і “на вока”, праявілася ў рэальнасьці. Ня добрая і ня дрэнная, а такая, якая ёсьць, з усімі сваімі асаблівасьцямі.

Рэч у тым, што калі для падтрымкі А.Лукашэнкі патрабавалася толькі слухаць, што табе кажа начальства, то “супраць” можна было адказаць толькі сьвядома і самастойна прымаючы рашэньне, трэба было зрабіць учынак і мець хоць трохі грамадзянскае сьмеласьці, каб сярод усёй гэтай аднабаковай устрашальнай прапаганды сказаць “не”. Менавіта сьвядомасьць і самастойнасьць думак і ўчынкаў выдзяляюць нацыю сярод насельніцтва. Супраць прэзідэнцкіх прапановаў выказаўся адзін мільён чалавек.

Прычым мільён — як мінімум. Бо колькі народу прынцыпова адмовілася ўдзельнічаць у рэфэрэндуме, колькі не разабралася ў пытаньнях — мы ня ведаем. Дый сярод тых, хто па традыцыі падтрымаў уладу, сьвядомых і прынцыповых ворагаў незалежнасьці і беларушчыны няшмат.

Прэзідэнт не перамог у тым сэнсе, у якім раней ён “перамог” беларускую прэсу ці апазіцыю ў Вярхоўным Савеце. Прэзідэнт упёрся ў народ. Ён правяраў натоўп — свой знаёмы, цёмны, бязь меры запалоханы начальствам натоўп, а ўпёрся ў народ. Мільён людзей сьвядома выказаліся за незалежнасьць і беларушчыну. Роўна праз сто гадоў пасьля дэкларацыі Францішкам Багушэвічам беларускай нацыянальнай ідэі гэтая ідэя матэрыялізавалася.

А.Лукашэнка парушыў законы. Ён першы рызыкнуў зазірнуць у духоўку, і ўсе пабачылі, што пірог хоць і не такі пышны, як марылася, але ўжо цалкам есны. Магчыма, тое, што прэзідэнт “знайшоў” у Беларусі нацыю, прымусіць яго карэктаваць сваю прамаскоўскую палітыку. Зрэшты, і гэта ўжо ня так істотна. Таму што вынік мінулага рэфэрэндуму вымяраецца не кар'ерай А.Лукашэнкі, а ўсім прасьцягам нацыянальнага разьвіцьця.

Самы выразны пункт плебісцыту — пра сімволіку. Тут тлумачэньне не выпадае шукаць у характары нацыі ці ў яе гісторыі. Тут мы атрымалі самыя “чыстыя” і самыя вялікія лічбы прыхільнікаў незалежнасьці і беларушчыны. Супраць прапановы прэзідэнта выказаліся 1 мільён 207 тысяч 702 чалавекі. І няма ніякага сумневу, што ўвесь астатні электарат галасаваў не за “зялёную” сімволіку, а толькі за яе аўтара. Прапануй А.Лукашэнка фіялетавы сьцяг і папугая на герб — вынік быў бы той самы. Затое сьвядомыя людзі адназначна галасавалі менавіта за нацыянальную сімволіку (бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню).

Яшчэ адно сьведчаньне таго, што нацыя заявіла пра сябе — статыстыка беларускага прэсавага рынку. Выпісваць і купляць газэты цяпер ніхто не прымушае, і вось вынік: афіцыйныя выданьні, якія падтрымліваюць А.Лукашэнку і існуюць на бюджэтныя грошы, акурат пад рэфэрэндум фатальна страчваюць свае тыражы, а незалежная прэса, тая ж СВАБОДА, якая прадстаўляе адваротны прэзідэнцкаму пункт гледжаньня, за год прэзідэнцтва павялічыла свой наклад у некалькі разоў. Выходзіць, беларускі рынак прэсы (як люстэрка грамадзкае думкі) выказаўся супраць як самога рэфэрэндуму, так і ягоных пытаньняў. У той час як грамадзкая думка выказалася “за”. І тут няма парадоксу. “Супраць” на рэфэрэндуме галасавала тая частка грамадзтва, якая чытае газэты.

Адкуль гэты мільён узяўся? Ад першых дэмакратычных пераўтварэньняў, ад пачуцьця ўласнай крыві і повязі з гэтай зямлёй, ад прыкладу іншых краін і развагі пра заканамернасьці і рацыянальныя шляхі разьвіцьця. Напэўна, значная роля тут і нацыянальнага руху, асабліва на пачатку яго. Бо падтрымаць апазіцыю ў ВС, калі яе выганялі амонаўцы, мільён не прыйшоў.

Гэта, дарэчы, сур'ёзны сімптом адставаньня нацыянальных лідараў ад нацыі. Часам здаецца, што лідары проста ня бачаць гэтае нацыі. Чаго вартыя закіды народу, што ён недаразьвіты і дурны, бо падтрымаў Лукашэнку! Калі на тое пайшло, народ спраўдзіў самыя неверагодныя разьлікі і паказаў, што ён ёсьць. Дагэтуль адраджэнцы мелі справу пераважна зь ідэаламі.

Цяпер у Беларусі ёсьць мільён. І гэты мільён мае поўнае права на тое, каб яго зразумелі.

## Якая мы нацыя?

Справа ў тым, што гэты мільён — рускамоўны. Сваіх дзяцей гэтыя людзі бачаць актыўнымі ўдзельнікамі беларусізацыі, патрэбу якой ставяць на першае месца пасьля незалежнасьці. Гэты мільён лаяльны да расейскае мовы, што, паводле нядаўніх словаў Генадзя Бураўкіна, дае магчымасьць тром цёткам бунтаваць увесь Менск за русіфікацыю школы. Няўжо, пытаецца Бураўкін, у нас ня знойдзецца трыццаць сваіх цётак з адваротнай актыўнасьцю? Дзеля чаго тады ТБМ, бацькоўскія камітэты?..

У нашай моўнай спэцыфіцы ёсьць свае гістарычныя далёкія і нядаўнія прычыны. Тыя, хто разам з масавай міграцыяй на так даўно прыехаў у горад, мусілі “перастройвацца” на гарадзкі “язык” зусім ня з тайнай думкай пра тое, што прыйдзе час “перастройвацца” назад. Не было падставаў для такіх думак. Што да далёкае гісторыі, то яна сьведчыць, што беларусы — не лінгвістычная нацыя. Як, скажам, літоўцы. Лозунг беларускае мовы ня можа быць у нас прыярытэтам нумар адзін гэтксама, як і лозунг адной канфэсіі. Што ж рабіць?

Некаторыя філёлагі прапануюць усю мову, якая гучыць і пішацца ў Беларусі, прызнаць беларускай. Нават калі гэта зусім, здавалася б, па-расейску. Але мэнтальна гэта ўсё адно па-беларуску. І ў Расеі такі “рускамоўны” выкрываецца зь першага сказу. Ня дзіва, што ў нас не было й няма ніводнае зьявы расейскае літаратуры пры тым, што ўсе гавораць “па-руску”. Але такое вытлумачэньне патрэбнае найперш самім філёлагам. Іншы варыянт — агульны — прапанаваў гісторык Лукаш Валовіч (зборнік “Скарыніч”, Менск, 1993): гэта наша бяда, што мы многія гаворым па-расейску. Бяда аднаго парадку з чарнобыльскай. І калі побач з гэтым будзе ісьці ўсьведамленьне прычынаў — саветызацыя, сталінскія рэпрэсіі, уціск усяго беларускага, — то гэта ўжо будзе тлумачэньне, прыймальнае для грамадзкай думкі. Мы жывем у гэтай атмасфэры, разумеючы яе згубнасьць, і стараемся хоць бы дзяцей па магчымасьці трымаць “на чыстым” — прадуктах, паветры... мове.

Няма сумневу, што калі б такі самы рэфэрэндум праводзіўся ў XVI ст., у “залаты век” беларускай культуры, то вынікі яго мала б адрозьніваліся ад сёньняшніх. Пра што гэта сьведчыць? Пра тое, што цывілізацыя не кранула сьвядомасьці народу? Ці пра тое, што выяўленыя адносіны да мовы, сімволікі, Расеі, улады — гэта якраз і ёсьць спэцыфіка нашае нацыі? Бо што б тады дазволіла ёй выжыць на працягу гэтых 500 гадоў?

Думаю, гэта сьведчыць і пра першае, і пра другое.

Корань беларушчыны пераховаецца ў гнёздах, далёкіх ад сучаснай цывілізацыі. Што да горада, то ён апынуўся як бы ў паўзе нармальнага разьвіцьця, завіс. На гэта паказваюць і наша беларускае няўменьне жыць, і брак культуры вытворчасьці і побыту. Варта зірнуць на нашыя дабітыя гарады, шэрыя ад бруду будынкі, змучаныя вуліцы і сьмярдзючыя заводы... Усё тут робіцца па тых жа прынцыпах, што й на зоне або ў казармах. Людзі ня тое, што ньздары, але пачуваюцца нявольнікамі ці вайсковцамі тэрміновай службы, пражываламі тэрміновага жыцьця. Яны яшчэ не пачуліся вольнымі, каб ім захацелася жыць умела і ладна.

Усё, што сёньня можа радаваць вока ў беларускім краявідзе — або кутох прыроды, або руіна замка, або старая сялянская хата. З гэтае хаты і бярэцца беларушчына. Далей — ад будынка сельсавета і да будынка міністэрства — усё як бы нічыйнае, мёртвае. Усё сваё і жывое тут прападае. І толькі ў вузкіх колах інтэлігенцыі зноў можна пачуць беларускае слова. Астатняе вялікае цела народа беларушчына не ахопліває і можа ахапіць толькі ў выглядзе ідэалогіі, масавае культуры. З гэтым у нас самыя вялікія цяжкасьці. Бо спрыяльных канстантаў для выпрацоўкі такое ідэалогіі — агульнае мовы і канфэсіі — няма.

Ёсьць успамін пра тое, што калі 10 сакавіка 1864 году на Лукішскай плошчы ў Вільні “дворянину Калиновскому” зачытвалі прысуд, ён перад самым павешаньнем сказаў: “У нас няма дваран, у нас усе роўныя!”

Роўнасьць у нашых людзей — першае патрабаваньне да ўсялякае ідэалогіі, да любога парадку і грамадзкага ладу. Нельга, напрыклад, як у Расеі, Літве ці Польшчы праводзіць прыярытэтны курс для нейкай адной мовы, канфэсіі, нацыянальнасьці. У свой час гэтая рыса нашага народу была ўдала выкарыстаная для рэалізацыі лозунгаў сацыяльнае ўраўнілаўкі (вось адкуль беларусы — “самая савецкая” нацыя). І калі прафэсар В.Чэкман пасьля анкетаваньня насельніцтва Беларусі казаў мне, што больш за ўсё баяўся задаваць пытаньне пра адносіны да людзей іншае нацыянальнасьці, я падумаў: які ў нас саветызаваны народ! Але я памыляўся. Гэтая патрэба роўнасьці у нашай крыві спрадвеку. Чужы для нашых людзей — толькі той, хто незалежна ад нацыянальнасьці і рэлігіі ўсталёўвае *няроўнасьць*. Астатнія — калі не свае, дык такія самыя, як мы.

У часы Вялікага Княства патрэба роўнасьці рэалізавалася ў шырокай цярпімасьці — як грамадзкай, так уладнай і юрыдычнай. У БНР і нават БССР адразу было 4 афіцыйныя мовы. Ды нават выказваньні Хрушчова і Брэжнева пра беларусаў, як “самую інтэрнацыянальную” нацыю, цяпер можна разглядаць па-рознаму. Варта згадаць і тое, што беларусы былі, бадай, самай любімай нацыяй сярод іншых народаў Саюза. Хто скажа, што гэта ня скарб? Можа быць таму так рвецца назад у Саюз прэзідэнт А.Лукашэнка, інтуітыўна адчуваючы, што *там* застаўся наш “куфар з каштоўнасьцямі”. Але Саюзу раней шага ўжо ня будзе, а ў Расеі мы можам быць толькі нахлебнікамі, там нашага “куфра” няма. І таму трэба не вышукваць ранейшую любоў, што звычайна прыводзіць да адваротнага выніку, а развіваць і культываваць тыя якасьці, за якія нас любілі.

Можна назваць патрэбу роўнасьці інтэрнацыяналізмам, а можна і нацыяналізмам. Таму што якраз у роўнасьці наша вы-

## Наша реликвия не хуже "Мерседеса" Брежнева

**В редакцию газеты СВАБОДА попала копия любопытного письма из Главного управления охраны Российской Федерации, адресованного одной немецкой фирме, торгующей автомобилями.**

В письме предлагается на продажу "Мерседес-600" (выпуска 1979 г.), который принадлежал Леониду Брежневу. Сообщается, что этот лимузин (повышенной защищённости) использовался Генеральным секретарем ЦК КПСС в 1979—1982 гг. в международных поездках и на отдыхе. Общий пробег автомобиля составляет 5698 км. Российское управление охраны запросило за машину 1 (один) миллион дойчемарок, но немцы почему-то не проявили интереса к покупке.

Кстати, у нас в Минске есть ещё более легендарная реликвия — "Мерседес" Ивана Титенкова, на котором кандидат в президенты Александр Лукашенко уходил из под пуль мафии в районе Лиозно. Может продадим, Иван Иванович?

**Иван СИДАР**

## Вильнюс выставляет счет Москве

**Министерство по охране окружающей среды Литвы представило проект подсчета ущерба, нанесенного длительным пребыванием советских, а позже российских войск на территории страны.**

Согласно проекту, ущерб составляет 1 млрд. 760 тыс. долларов США. Эти выводы будут представлены литовской делегацией на переговорах с Россией о компенсации ущерба. Газета "Республика" сообщает, что всего литовские и зарубежные эксперты проверили 462 военных объекта бывшей советской армии, которые размещались на площади, занимающей около 67 тысяч гектаров. Были установлены, пишет литовская газета, многочисленные факты загрязнения почв, лесов, водоемов нефтепродуктами и другими опасными для природы химическими веществами, захоронения ядовитых снарядов и металлических отходов.

## Литовцы отдают кровь чеченцам

**140 литров крови и почти такое же количество кровяной плазмы было собрано для чеченских боевиков и граждан Чечни во время специальной акции, проходившей в Литве.**

Акция под названием "Кровь для защитников свободы Чечни" была проведена по инициативе ветеранских организаций Литвы. Видас Жемайтис, исполняющий обязанности главы Национального центра крови, сказал, что около 700 человек, 90% из которых солдаты, ответили согласием на призыв пожертвовать кровь. Он также сообщил, что акция, запланированная на неделю, продлена ещё на два дня в связи с большим наплывом доноров. Инициаторы акции намерены просить российские власти разрешить транспортировку пожертвованной крови в Чечню.

*CIM*

## Беларусь опережает все страны СНГ по росту преступности

В I квартале текущего года число преступлений, зарегистрированных в странах СНГ, увеличилось по сравнению с I кварталом прошлого года в среднем на 6%. Число учтённых преступлений снизилось в Армении на 7%, Молдове — на 8% и Таджикистане — на 21%.

**Число преступлений за январь—март текущего и предшествующего годов по государствам СНГ (тысяч)**

| | 1994 г. | 1995 г. | 1995 г. в % к 1994 г. |
|---|---|---|---|
| Азербайджан | 4,1 | 4,6 | 113,4 |
| Армения | 2,5 | 2,3 | 92,7 |
| Беларусь | 27,5 | 34,9 | 126,7 |
| Грузия | 4,6 | нет сведений | |
| Казахстан | 49,2 | 52,0 | 105,8 |
| Кыргызстан | 9,8 | 10,8 | 110,2 |
| Молдова | 12,4 | 11,4 | 92,0 |
| Россия | 644,8 | 671,5 | 104,1 |
| Таджикистан | 4,3 | 3,4 | 79,1 |
| Туркменистан | 3,7 | 3,7 | 99,9 |
| Узбекистан | 15,6 | 16,2 | 103,8 |
| Украина | 140,8 | 115,7 | 110,6 |

Продолжается рост умышленных убийств. В I квартале 1995 г. самый высокий темп их прироста отмечался в Кыргызстане — на 43%, Беларуси — на 24%, на Украине — на 12%, в России — на 7%, Казахстане — на 6% (в среднем по СНГ на 7%).

По сравнению с I кварталом прошлого года на 9% в среднем по странам СНГ выросло число выявленных хулиганских действий, при этом на Украине — на 48%, в Азербайджане — на 18%, Беларуси — на 16%, России — на 5%.

Около половины зарегистрированных преступлений приходится на кражи. Их число за I квартал 1995 г. по сравнению с соответствующим периодом 1994 г. увеличилось в Беларуси на 35%, Кыргызстане — на 14%, Туркменистане — на 12% и Казахстане — на 3%. Квартирные кражи составляют четвертую часть от общего числа краж.

Количество зарегистрированных грабежей возросло в Армении на 54%, Беларуси — на 17% при снижении в среднем по СНГ на 6%; число разбойных нападений увеличилось в Беларуси на 19%, в Молдове — на 17% и на Украине — на 3% (в среднем по СНГ снизилось на 5%).

*По материалам "Интерфакса"*

**Джеффри САКС**

# Власть пенсионеров

На выборах в марте эстонское правительство реформ потерпело поражение. Большинство голосов получила объединенная левая коалиция. Роспуск правительства, кажется, свидетельствует о неблагодарности эстонских избирателей. К 1994г. инфляция была снижена до 20% в год (самая низкая в бывшем СССР), а рост экономики составил 5% (самый высокий показатель среди бывших советских республик) при прогнозе еще большего роста.

Почему же реформаторы были отвергнуты? Почему левым партиям удалось выиграть выборы в Болгарии, Эстонии, Венгрии, Литве, Польше, Словакии и Словении? Ответ прост: рыночные реформы были слишком быстрыми и жёсткими. Люди тосковали по прошлому.

Однако это объяснение кажется слишком простым. Нельзя не учитывать такой фактор: как показывают исследования, народ не хочет возвращаться к старому режиму, а левые партии не рассматриваются как орудие уничтожения рыночных реформ.

Если посмотреть на потребление товаров (а не на изменение заработной платы), то жизненный уровень сохраняется на прежней отметке. Во многих странах происходит накопление таких дорогостоящих товаров, как автомобили, холодильники, видеомагнитофоны, — того, чего не было при коммунистических режимах.

Во всей Восточной Европе по-прежнему остаются высокими общественные затраты. Посткоммунистические государства имеют самый щедрый социальный бюджет в мире. Он составляет 15—30% от валового национального продукта, в то время как в Восточной Азии на социальные программы выделяется только 5—10%. Эти высокие и всё возрастающие социальные расходы помогают понять внутреннюю политику.

Партии левого направления одерживают победу, потому что стараются защищать интересы определенных групп и рассматриваются как преданные сохранению щедрого бюджета. Бывшее эстонское правительство, возможно, было слишком суровo с пенсионерами. В то же время партии, придерживающиеся среднего, умеренного уровня были побеждены партиями, которые давали популистские обещания для привлечения пенсионеров. Проще говоря, большинство людей в Эстонии хочет иметь свой пирог — и рыночную реформу, и социальную безопасность.

Социальные затраты увеличились повсеместно. Польша, эта "холодная индейка", вступившая на путь рыночных реформ, которыми то восхищались, то ругали, но которые всегда считались резкими и жёсткими, пошла навстречу требованиям и увеличила социальные затраты на 11% в период с 1989 по 1993 гг. Подобное увеличение происходило в Болгарии, Венгрии, Словакии. В большинстве стран сокращение в субсидиях, которое сопровождало ценовую либерализацию, было компенсировано частично, а иногда и полностью увеличением социальных расходов. Вместе с большими социальными расходами пришли тяжёлые налоги, особенно на труд, что деформировало экономику, сократило основные притоки и увеличило безработицу. Произошло перемещение рабочих мест в неналогооблагаемую теневую экономику.

Левые партии пожинают плоды своего прошлого. Они унаследовали способность пополнять свой резерв, усиливать своё влияние на заводах, в профсоюзах, среди бюрократических организаций. В большинстве стран коммунистические партии завещали имущество своим преемникам без каких-либо серьезных препятствий. Исключением является Чехия, где процесс очищения (снятие с государственных постов как следствие членства в коммунистической партии или секретной полиции) сильно ослабил в организационном отношении компартию.

Пенсионеры являются основными избирателями левых партий. Объясняя, почему пожилые люди и левые объединились, остановимся на трех факторах:

1. Все коммунистические режимы раздавали щедрые обязательства — всеобщие пенсии, пенсии по нетрудоспособности, забота о здоровье и жилье (что в итоге и обанкротило экономическую систему). Тем не менее все понимали, что невозможно отменить эти обязательства даже при экстремальном кризисе бюджета. И левым силам пришлось признать на словах эти обещания.

2. Так как прироста населения почти не происходит, пожилые люди составляют большую часть населения. Это вызывает дополнительные расходы в бюджете, но дает и дополнительную власть на выборах.

3. Людям старше 45 лет особенно тяжело приспосабливаться к новым рыночным условиям. Изменчивые цены, сложность переподготовки, ограниченное время для переквалификации — все это сильно влияет на пожилых рабочих. Политики пытались "выкупить" эту группу людей посредством более раннего выхода на пенсию и неопределенных выплат по нетрудоустройству.

В результате всего этого огромная армия пенсионеров обращает свои взоры в прошлое, но не в будущее. Приблизительно 32% взрослого населения Польши составляют пенсионеры. Сравним с США, где пенсионеры составляют 21% взрослого населения. Численность польских пенсионеров увеличилась на 28% за последние 4 года (с 1989 по 1993 гг.), хотя население при этом увеличилось только на 1,5%. Эти показатели в Польше не являются исключением. Такую картину можно наблюдать повсеместно в регионе.

Крестьяне — вторая главная группа людей, на которых опирались во время выборов левые партии. Нет ничего удивительного в том, что крестьяне тоже поддерживают левых. Аграрные партии образовали коалиции с бывшими коммунистами во многих странах. Интересы крестьян были ущемлены из-за резкого сокращения дотаций сельскому хозяйству. Позже эти потери были компенсированы успешно проведенным законопроектом о новых субсидиях и контроле импорта.

Какие выводы можно извлечь из возрастающей силы этих двух групп? Налоги на заработную плату и пошлины на импортные товары настолько высоки и тягостны, что угрожают развитию рыночной экономики. Вряд ли найдется страна с доходом 50.000 долларов на человека, где государственные затраты превышают 40% от валового национального продукта. В Чехии, Венгрии, Польше, Словакии и Словении правительственные затраты превышают этот показатель.

Такое перемещение ценностей можно было бы рассматривать как временную историческую сделку, в которой молодые и старые делят тяжесть переходного периода. Эта сделка, однако, не похожа на временную, т.к. обещаниям не видно конца. Щедрые пенсии и протекционистские законы стали неотъемлемыми чертами жизни. Конечно, эти обещания могли быть полностью изменены. Но ни одной стране в мире не удалось ещё понизить до прежнего уровня рыночные цены путём правительственных мероприятий.

В предстоящем времени самой важной финансовой задачей, которую придётся решать восточно-европейским правительствам, является уменьшение социальных затрат до более благоразумных пропорций. Политики должны обратить внимание народа на угрожающий финансовый кризис. Народ, в свою очередь, должен осознать разницу между временной уступкой старым рабочим в начале рыночных реформ и долговременной политикой. Уровень различных пособий по отношению к заработной плате необходимо снизить, пенсионный возраст следует увеличить до международных норм, а в отношении "специальных" пенсий надо проводить политику "завинчивания гаек".

Реформа должна быть нацелена на коренное изменение системы пенсионного обеспечения, базирующейся на личных сбережениях (в противоположность ныне существующей системе). Это позволит каждому гражданину самому выбрать собственный уровень сбережений и исключит в дальнейшем безответственность в праве на пособия. Именно это погубило старые режимы и приносит вред новым. Процесс приватизации может проходить вместе с реформой пенсионных пособий, что значительно облегчит переход к частной, индивидуальной системе пенсионного обеспечения.

Результаты выборов показывают, насколько трудно будет выполнить необходимые реформы. Различные правительства только заигрывали с пенсионными реформами, но ни одно из них не шагнуло далеко в этой области. Реформаторы, политики, международные советники должны приложить усилия, чтобы объяснить народу необходимость введения новой политики для пенсионных реформ и для уничтожения финансового наследия старого режима.

*Джеффри Сакс, лауреат Нобелевской премии в области экономики, профессор международной торговли Гарвардского университета, советник по экономическим вопросам в России, Польше, Эстонии, Монголии, Боливии*

*© Project Syndicate*

# Барыс Ельцын гуляе на менскіх кортах

**Гэтымі днямі ў сталіцы Беларусі праходзіць Міжнародны юнацкі турнір па тэнісе, у якім удзельнічае ўнук расейскага прэзідэнта 14-гадовы Барыс Ельцын.**

Паўсюль яго суправаджаюць два ахоўнікі. Спаборніцтвы праходзяць на кортах менскага завода "Тэрмапласт" і МАЗа. У іх удзельнічаюць дзеці з 10-ці гарадоў краінаў СНД, а таксама зь Літвы. Самы юны спартсмэн — 7-гадовы жыхар Менска Лёня Пацэвіч.

Барыс Ельцын пасьпяхова выйшаў у васьмёрку мацнейшых у свайой узроставай групе. Пераможцы турніру стануць вядомыя ў нядзелю 2 ліпеня.

**М.Г.**

# Чарга №5123

**Ужо амаль тыдзень на прыступках менскага кінатэатра "Піянер", які знаходзіцца насупраць рэзідэнцыі прэзідэнта, днюе і начуе жыхар Слаўгарада Валянцін Луфёраў.**

Ён абвесьціў безтэрміновую галадоўку з прычыны таго, што ня можа патрапіць на прыём да А.Лукашэнкі. У адміністрацыі прэзідэнта сп.Луфёрава запісалі ў чаргу (№5123), але патлумачылі, што аўдыенцыя Лукашэнкі можа адбыцца толькі ў 2015 годзе. Зразумела, што такая пэрспэктыва не задавальняе жыхара Слаўгарада. Ужо 10 гадоў ён намагаецца "вярнуць сабе" кватэру, працу, прапіску ды ільготы інваліда.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Прыватныя аб'явы

* **Прадаю** кішэнныя слоўнікі: расейска-партугальскі і расейска-фінскі ў выдатным стане. Тэл. 65-63-91

* **Прадаю музычныя мікрасхемы УМС-7,8. Тэл. 72-14-36**

* Прадаю тумбу пад тэлевізар: дубовы шпон, паліраваная, б/у 1 мес. Т. 656-391

* **Прадаюцца касцюмы на дзяцей ад 2-х да 8-мі гадоў. Тэл. у Барысаве 5-01-89**

* КУПЛЮ Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў 5-ці тамах. Тэл. 55-66-72

# 30-цігадовы інжынэр-канструктар, мэханік шырокага профілю, афіцэр запасу, ёсць катэгорыя В, **шукае в/а працу.** Тэл. 20-81-51

*** ЛЮБАЯ СЬВЕТАЧКА МАЙСЕНЯ! Віншуем цябе з днём нараджэньня! Сям'я Мачульскіх.

* Мікалай Іванавіч і Зоя Іосіфаўна Крывіцкія! Віншуем вас з залатым вясельлем! Зычым здароўя, шчасьця і доўгіх гадоў жыцьця! Дзеці, унукі, праўнукі.

# Перафарбаваліся

**У Менску праведзена чарговая акцыя па ліквідацыі бел-чырвона-белых колераў.**



На наступны дзень пасьля таго, як прэзідэнт Лукашэнка пасадзіў у самалёт кітайскага прэм'ера Лі Пэна, на Маскоўскай шашы (якая вядзе да аэрапорта Менск-2) зьявіліся рабочыя з фарбамі. Два дні яны замалёўвалі карычневай фарбай нацыянальныя колеры, якімі некалі былі размаляваныя аўтобусныя прыпынкі на шашы. Атрымаліся бел-карычнева-белыя валошкі. Будзем спадзявацца, што А.Лукашэнку гэта спадабаецца.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Забойцаў знайшлі, але сына ня вернеш

**Пасьля двух месяцаў пошукаў міліцыя знайшла труп 18-гадовага Ігара Парадні, сына намесьніка начальніка Наваполацкага аддзелу ўнутраных справаў.**

Як стала вядома з папярэдняга сьледзтва, хлопца застрэлілі і закапалі ў лесе каля вёскі Струпкі Полацкага раёну ягоныя аднагодкі, якія жывуць зь ім у адным двары.

**Тамаш ГУРБА**

# Пагарэў на масьле

**Магілёўская абласная міліцыя затрымала намесьніка старшыні Мсьціслаўскага райвыканкаму сп.Доўнера.**

Яго абвінавачваюць у крадзяжы 5 млн. расейскіх рублёў, атрыманых за незаконную рэалізацыю сьмятанковага масла. Паводле папярэдніх зьвестак, сп.Доўнер прадаў каля 2 тонаў гэтага прадукту адной з расейскіх фірмаў, але кошт, які быў пазначаны ў накладных, аказаўся значна меншым за рэальны.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Гатэль хацелі ўзарваць?

**У сераду, 28 чэрвеня ў сталічным гатэлі "Мінск" была выяўлена супрацьтанкавая міна ТМ-62.**

Гэтую небясьпечную рэч работніца гатэля ўбачыла ў вэстыбюлі 5-га паверха. Сапэры міну абясшкодзілі. Хто яе гаспадар і для каго яна прызначалася — цяпер спрабуе высьветліць сталічная міліцыя.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Дзецям не шанцуе

**Зьменшылася колькасьць лагераў адпачынку для вясковых дзяцей на Віцебшчыне.**

У гэтым летнім сезоне адкрылася толькі 9 лагераў з 24-х існуючых. Абласны аграпрамысловы комплекс ня ў стане іх утрымоўваць. Мізэрныя датацыі дзяржавы таксама ня выратоўваюць становішча. Лагеры, якія працуюць, маюць вялікія запазычанасьці за прадукты харчаваньня.

**Тамара СЁМУХА**



# Натуральны абмен

**Лунінецкі райспажыўсаюз, які прымае ад насельніцтва клубніцы і пастаўляе іх на вінаробчыя заводы рэспублікі, вымушаны разьлічвацца за ягады мінэральнай вадой, вінinformацыяом і моцнымі напоямі.**

Людзей такі разьлік не задавальняе, але іншага выбару няма.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Дырэктара ўзялі за хабар

**У Магілёве, на плошчы імя Леніна, супрацоўнікі КДБ затрымалі дырэктара аднаго з буйнейшых мясцовых прадпрыемстваў.**

Ён абвінавачваецца ў атрыманьні хабару (больш за 10 тысяч даляраў). Ніякіх тлумачэньняў па гэтым факце органы пакуль не даюць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



**Рэдакцыя прымае прыватныя аб'явы і віншаваньні.**

Базавы кошт аднаго радка (30 знакаў) — 12000 рублёў за наяўныя альбо 15000 рублёў за безнаяўны разьлік.

*Аб'явы і віншаваньні прымаюцца ў рэдакцыі **(вул. Іванаўская, 56) зь 10 да 17.** Вы можаце таксама даць аб'яву па **тэл. 36-24-41,** аплаціўшы яе ў зручны для Вас час, але не пазьней, чым за 3 дні да выхаду газэты. Пасля 18 гадзін аб'яву можна даць на аўтаадказчык. Не забудзьце пры гэтым пакінуць свае каардынаты.*

## Субота, 8 ліпеня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 Эканамікст
8.10 Люстэрка Сі-Эн-Эн
8.25 Скарбы
8.45 "Сьніўся мне сад"
8.55 "Лулу - анёл кветак"
9.25 "Чараўнік Лад і сем прынцэс"
9.40 "Уся рэч у капялюшы"
10.20 Здароўе
11.00 "Вэнэцыянскі карнавал"
11.35 Якія мы гаспадары?
12.25 Шматгалосьсе
12.55 Архіварыус
13.15 Чэмпіянат сьвету па матагонках-95. Гран-пры Нямеччыны
13.45 Вяскоўцы
14.15 "Чацьвёртае вымярэньне"
15.05 Канцэрт
15.40 Вера, Надзея, Любоў
16.10 Зорная ростань
17.15 Фінансавы час
17.30 "Трапічная сьпёка"
18.30 Банка коміксаў
19.00 Відзьма-нявідзьма
20.00 Міжнародныя спартовыя навіны
20.35 Калыханка
21.00 Навіны
21.35 "Жыцень-95"
23.30 "Трэці ня лішні", м/ф
0.50 "Нов і К"-топ
1.30 Пад купалам Сусьвету

**1 канал**

6.30 Тэлераніца
7.45 Слова пастыра
8.00, 14.00, 23.15 Навіны
8.20 Лега-го
8.50 "Сакрэты мойго лета"
9.25 Ранішняя пошта
10.00 Смак
10.15 Здароўе
10.50 Правінцыя
11.15 Бамонд
11.35 "Капітанская дачка", м/ф
13.25 Люстэрка
14.20 Вялікія гонкі
14.50 "Будзь праклятая вайна"
15.40 Тут вучаць лётаць самалёты
16.25 У сьвеце жывёлаў
17.00, 20.00 Час
17.25 Брэйн рынг
18.15 "Мой дзядзька Бэнжамэн", м/ф
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.45 "Удовы"
21.40 Оба-на
22.20 Да і пасьля...

**Канал "Расея"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Кліп-антракт
7.30 Зоркі гавораць
7.35 Мульты-пульці
7.45 "Ад вінта"
8.00 Падоўжанка
8.15 Міравая вёска
8.45 Парламанцкі тыдзень
9.30 Пілігрым
10.15 Да Масквы - далёка
11.00 "Д'Артаньян і тры мушкецёры", с. 3
12.15 "Сьпёка..."
12.45 Кінаафіша
13.20 "Цярпеньне Мэгрэ", ч. 1
14.05 Кліп-антракт
14.15 De facto
14.30 Залатая шпора
15.00 "Экстрамадура: забытыя лясы Гішпаніі"
15.55 Футбол. Чэмпіянат Расеі
17.55 Двайны партрэт
18.45 Кліп-антракт
19.25 "Экіпаж", м/ф
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.50 Поўня
23.40 Валейбол. Сусьветная ліга

**Санкт-Пецярбург**

6.30 Хрыстос ва ўсім сьвеце
7.00 Добрай раніцы
9.00 Стыль жыцьця
9.15 "Максімка", м/ф
10.30 Мультфільм
10.45 Эўрапейскі калейдаскоп
11.25 "Мая музыка"
12.00 Тэледоктар
12.20 Гістарычны альманах
12.45 "Музычныя гульні", м/ф
13.55 Казка за казкай
15.00 Этап Кубку Сьвету "Формула-1" на вадзе
16.30 "Палітры"
17.05 "Праблемы дня"
17.50 "Паласаты хіт"
18.30, 21.40 Інфарм-TV
18.55 "Дамінік", м/ф
20.35 "Ня хачу — не глядзі"
22.05 "Сьмерць зласьліўца", м/ф

**8 канал**

15.00 "Чалавек-амфібія", м/ф
16.30 Хрысьціянская праграма
17.00 "Саламея"
18.45 Мультфільм
19.00 "Двухмясцовае аўто", м/ф
21.00 Спраўная ангельская
21.15 "Міс Лямбэр памятае каханьне", м/ф
22.45 Тэлемэню
23.00 "Сірэны"

## Нядзеля, 9 ліпеня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 "Журыцца ня трэба..."
8.30 Кола часу
9.00 "Як нараджаецца музыка?"
9.45 "Конан і ягоныя маладыя воі"
10.15 Усё нармальна, мама!
10.45 Урокі Н.Наважылавай
11.15 Тураб'ектыў
11.35 Беларусы ў Кіргізіі
12.05 Між намі, жанчынамі...
12.35 Партрэт у інтэр'еры
12.55 Сітуацыя
13.25, 14.40 Фэстываль салдацкай песьні
14.25 Аўта-парк
15.40 "Акно"
16.40 Творцы
17.10 "Экспэдыцыя"
17.45 Стыль
18.05 Кампутарны палігон
18.30 Абібок
18.50 SOS
18.55 Тэатар песьні
20.00 Рэзананс
20.45 Калыханка
21.10 "Карамболь"
21.40 Рэклама
21.50 "А цяпер не глядзі", м/ф
23.45 Пад купалам Сусьвету

**1 канал**

6.30 Тэлераніца
8.00, 14.00, 23.20 Навіны
8.20 Раным-рана
8.50 Мультфільм
9.15 Пакуль усе дома
9.45 Крышталёвы чаравічок
10.30 Служу Расеі!
11.20 Анонсы
11.35 Сусьветная геаграфія
12.20 Уся Расея
12.45 У гэтыя дні 50 гадоў таму.
13.00 Пад знакам "Пі"
13.45 Спорт падчас абеду
14.20 Вакзал мары
15.10 Клуб падарожнікаў
16.00 Акно ў Эўропу
16.25 Мультфільм
17.00 Час
17.20 Брава
18.00 Сам-насам
18.30 Сусьветы, сусьветы...
19.25 "Няшчасьці Альфрэда", м/ф
21.00 Нядзеля
21.50 "Удовы"
22.45 Каханьне зь першага погляду

**Канал "Расея"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Кліп-антракт
7.30 Зоркі гавораць
7.35 Мульты-пульці
7.45 Першы дубаль
8.00 Залаты ключык
8.15 Футбол бязь межаў
9.00 Аты-баты...
9.30 Добрай раніцы, Эўропа
10.00 Кансалідацыя
10.05 Расейскае лато
10.50 "Мушкетэры 20 год пасьля", м/ф, с. 1
11.55 "Гэй, пад дажджом"
12.30 Аніматэка
13.20 "Цярпеньне Мэгрэ", ч. 2
14.10 Паралелі
14.25 "Ці помніш ты?"
14.45 Залатая ветка
15.15 Твае магчымасьці, чалавек
15.45 Сігнальный экзэмпляр
15.55 "Gipsy Kings" у Маскве
17.00 Чароўны сьвет Дыснэя
17.55 Кліп-антракт
18.05 ХХ стагодзьдзе ў кадры і па-за кадрам
19.25 "Начны цягнік у Вэнэцыю", м/ф
21.10 Каробка перадачаў
21.25 У Ксюшы
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.40 Валейбол. Сусьветная ліга

**Санкт-Пецярбург**

6.00 Гэта ваш дзень
6.30 Гаючае слова
7.00 Добрай раніцы
9.00 Стыль жыцьця
9.20 "Сьведка", м/ф
11.00 Нядзельны лабірынт
12.10 "Лялька, Руслан і ягоны сябра Санька", м/ф
13.15 Паглядзім
13.30 Класіка-5
14.30 Слова — дэпутатам
15.00 Кубак Сьвету "Формула-1"
16.30 "Арыенталія"
16.55 "Антрэ"
17.40 "Change. Абмен"
17.55 "Выспа нешанцаваньня"
18.30, 22.15 Інфарм-TV
18.50 "Справа Сэзнэка", с. 2
20.35 Тэлеслужба бясьпекі
20.45 "Па мянушцы "Зьвер", м/ф
22.40 "Адамаў яблык"

**8 канал**

15.00 "Сьвядомасьць", м/ф
17.15 Сёньня з М.Хікі
17.45 "Па шчучыным жаданьні"
19.00 "Гладыятар",м/ф
20.30 Спраўная ангельская
20.45 "Не выходзьце, дзеўкі, замуж", м/ф
22.00 Тэлемэню
22.15 "Сірэны"
23.15 Foxy music



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 28.6.95 (23.30). Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3). © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 93 000